


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

22 чэрвеня 2001 года

№ 25 (322)
Выходзіць па пятніцах

TV ПЛЮС

## Навіны рэгіёна



### Яўген Сініла – старшыня выканкома


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.
Яўген Сініла.

**ВІЛЕЙКА.** У панядзелак дэпутаты райсавета зацвердзілі на пасадзе старшыні райвыканкома **Яўгена Сінілу**. Да гэтага ён выконваў абавязкі старшыні.

Гэтаму традыцыйна папярэднічалі згода **А. Лукашэнкі** і назначэнне аблвыканкома (у пятніцу Вілейку наведаў намеснік старшыні Мінаблвыканкома **У. Дражын**).

На сесіі Вілейскага райсавета дэпутатаў прагучала інфармацыя і пра лёс былога старшыні **Івана Шнітоўскага**. Са сваёй пасады ён быў звольнены ў сувязі з пагаршэннем стану здароўя і пераходам на іншую работу. Іншая работа – намеснік кіраўніка абласнога упраўлення па меліярацыі.

**Аддзел інфармацыі "РГ".**

### З Будслава – з памяткай

**МЯДЗЕЛ.** Па меры набліжэння Будслаўскага фэсту павялічваецца і колькасць пілігрымаў, што наведваюць мясцовы касцёл. За апошнія месяцы прыязджае шмат груп, толькі вялікіх, на аўтобусах, было больш за 20. Найбольш наведвальнікаў з Мінску. Усё больш прыязджае дзетак, якія нядаўна прынялі першую камунію.

Сёлета да фэсту, які традыцыйна адбудзецца 2 ліпеня, выпушчана шмат памятак: 5 відаў прыгожых паштовак, кніжачкі па гісторыі касцёла і старога алтару святой Варвары, значкі і іншае.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Што ні год, то кірмаш

**МАЛАДЗЕЧНА.** Заўтра ў горадзе пройдзе другі абласны кірмаш. Першы быў летась.

У горадзе будзе разгорнута больш за 400 пунктаў гандлю. З уласнай прадукцыяй прыедуць мядзельцы, валожынцы і вілейчане. Падчас мерапрыемства ладзяцца выступленні артыстаў, выстаўкі і спартыўныя спаборніцтвы.

У сувязі з правядзеннем кірмашу «Маладзечна-2001» будзе зменены рух гарадскіх маршрутных аўтобусаў.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

### «Зніміце локшыны з вушэй»

**СМАРГОНЬ.** Прымусіць людзей задумацца, ці адпавядае рэальнае жыццё ў Беларусі таму, як яго паказваюць на нацыянальным тэлебачанні, — такую мэту мела акцыя прадстаўнікоў «Моладзі АГП» і Беларускага аб'яднання маладых палітыкаў. На працягу нядзельнага дня больш за 20 маладых людзей раздавалі гараджанам улёткі з заклікам «зняць локшыны з вушэй», а таксама матэрыялы з інфармацыяй аб рэальнай сітуацыі ў краіне.

Сярод смаргонцаў знаходзіліся добраахвотнікі, якія прапанавалі сваю дапамогу ў распаўсюджванні матэрыялаў. Бліжэй да вечара на вуліцах з'явіліся дадатковыя міліцэйскія патрулі. Аднак дзякуючы юрыдычнай падкаванасці актывістаў маладзёжных арганізацый ніхто з уд зельнікаў акцыі затрыманы не быў.

Арганізатары смаргонскай перадвыбарнай кааліцыі "Маладзёжны дэмакратычны рух" плануюць правесці на працягу летапачатку восені шэраг падобных мерапрыемстваў.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 23 чэрвеня**

**Мінск**
10 – 12°С (уначы)
15 – 17°С (удзень)



**Вільня**
13°С (уначы)
18°С (удзень)



**Нядзеля, 24 чэрвеня**

**Мінск**
8 – 10°С (уначы)
16 – 20°С (удзень)



**Вільня**
9°С (уначы)
21°С (удзень)



## «Адна зямля» збіраецца ў Ашмянах

ПАГРАНІЧНАЯ ЗОНА
УЕЗД ПА ПРАПУСКАХ

Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**Ля Ашмянаў. А ў райцэнтры ў нядзелю святкуюць. Спачатку тут пройдзе Дзень горада, а затым адбудзецца III рэгіянальны фестываль-конкурс выканаўцаў эстраднай песні «Адна зямля» (папярэднія прымалі Чысць і Валожын).**

## Настаўнік мае пазіцыю

**АСТРАВЕЦ. Настаўнік геаграфіі Гозскай базавай школы Мікалай Уласевіч не пагадзіўся з уладамі. Практычна ўсе настаўнікі ў раёне моўчкі паставіліся да рашэння аб адтэрміноўцы зарплаты на месяц, але Уласевіч дамогся поўнай выплаты.**

**— Што падштурхнула на падобны крок?**

— Перш-наперш, само рашэнне аб адтэрміноўцы. Такое стаўленне ўражвае да немагчымага. I гаворыць, на маю думку, пра адно: улады абыякава ставяцца да людзей. Калі сам за сябе не пастаіш, то ніхто іншы гэтага не зробіць.

**— I што было далей?**

— Наведаўся да загадчыка раённага аддзела адукацыі **Уладзіміра Булавіцкага**. Размова ў нас была кароткая. Я выказаў свае патрабаванні і заявіў, што ў выпадку, калі мне не будзе выплачана заробатак, то звярнуся ў суд. Калі справа дайшла б да гэтага, то закон быў бы на маім баку. Булавіцкі са мной пагадзіўся. Сам заўважыў, што апынуўся ў даволі пікантнай сітуацыі: калі не заплаціць грошы, то не пазбегнуць адказнасці ў судзе. А выплаціць зарплату аднаму настаўніку ў раёне — невядомая рэакцыя астатніх.

**— I якая ж была рэакцыя астатніх настаўнікаў у раёне, калі яны даведаліся пра выплачаны вам заробатак?**

— Большасць, што крыўдна, засталася абыякавая да ўсяго. Я разаслаў ва ўсе школы Астравеччыны зварот да раённага кіраўніцтва, дзе і былі патрабаванні аб выплаце грошай. На жаль, многія дырэктары школ зрабілі выгляд, што не атрымалі ліст. Так было ў Варнянскай СШ, дзе настаўнікі пра гэтае пісьмо нічога не ведалі. У Альхоўскай і Рымдзюнаскай СШ настаўнікі занялі прынцыповую пазіцыю і паставілі свае подпісы пад зваротам.

**— Ці можна зрабіць выснову, што большасць настаўнікаў абыякавая да становішча, у якое іх паставіла ўлада?**

— Так яно і ёсць. I калі ўжо інтэлігенцыя не можа адстаяць свае правы, то нічога не застаецца чакаць ад калгаснікаў і рабочых. Крыўдна, што людзі апускаюць рукі.

**Гутарыў Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

P. S. Калі рыхтаваўся матэрыял, стала вядомая рэакцыя ўладаў на зварот настаўнікаў. На мінулым тыдні старшыня выканкома **Адам Кавалька** і яго намеснік **Ірына Шляхтун** былі на сустрэчы з педкалектывам СШ №1. Сярод пытанняў, на якія адказвалі "верхі" калышчыкі", узнімалася выплата заработкаў. А. Кавалька паабяцаў, што з настаўнікамі разлічацца да 15 чэрвеня. Што і было зроблена.

## Праграма рэгіянальнага фестывалю-конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Адна зямля»




*14-00* **Святочнае адкрыццё фестывалю**
*14-15* **Конкурс выканаўцаў эстраднай песні малодшай узроставай групы** (15–18 год)
*15-30* **Канцэрт дзіцячай эстраднай студыі "Палёт" СШ №1**
*16-00* **Конкурс выканаўцаў эстраднай песні сярэдняй узроставай групы** (19–23 гады)
*17-30* **Канцэрт ансамбля джазавай музыкі "Рэзананс"** Маладзечна
*18-00* **Конкурс выканаўцаў старэйшай узроставай групы** (24–30 год)
*19-30* **Канцэрт групы сучаснай харэаграфіі "ТАД" і танцавальнага дуэта "Энігма"** г. Гродна
*20-30* **Узнагароджанне пераможцаў конкурсу**
*21-00* **Заключны гала-канцэрт** рэгіянальнага фестывалю-конкурсу выканаўцаў эстраднай песні "Адна зямля" з удзелам пераможцаў конкурсу 2000–2001 гадоў, лепшых эстрадных выканаўцаў раёна.

У фестывалі возьмуць удзел эстрадныя выканаўцы Маладзечанскага, Валожынскага, Смаргонскага, Астравецкага, Вілейскага і Ашмянскага раёнаў, а таксама група эстраднага танца "Імпульс" і ансамбль цыганскай песні "Джана рома" г. Ашмяны.

Падтрымаць добры настрой вам дапамогуць святочны гандаль і маладзёжная дыскатэка "Юла".

**Аргкамітэт.**

### Пераможцы фестываляў «Адна зямля»


**«Чысць-1999» – Дзіма Мінько (Маладзечна).**


**«Валожын-2000» – Даша Урычанка (Маладзечна).**



**«Ашмяны-2001» – ?**

Фота з архіва «Рэгіянальнай газеты».

■ СТАРЫ АЛЬБОМ

# «Адкарміць адну свінню»




Фота з альбома Васіля КАСЯКА.

"Адкарміць 1 свінню на 2–3 га пашні – вось наша задача!" – загадвае заклік на сцяне сельскага клуба ў вёсцы Іжа, што на Вілейшчыне. Пачатак шасцідзесятых. Вяскоўцы сабраліся ў клубе, каб паслухаць лектара з горада (паглядзець кіно, канцэрт, папрысутнічаць на калгасным сходзе – магчымыя варыянты – аўт.), а заадно абмяняцца навінамі. У цэнтры, іграючы заліхвацкага вясковага кавалера з цыгаркай у роце (ніколі не курыў), вядомы на ўсё акругу жартаўнік і душа кампаній **Пётр Касяк**. Ветэран вайны. Сустрэў немцаў яшчэ ў 1939–м у Войску Польскім. Пасля партызаніў. Заўсёды быў шчыры ды лепш за іншых умеў апавядаць розныя гісторыі.

Сёння клуба ў цэнтры вёскі няма, а пабудаваная паміж Іжай і суседнімі Каралеўцамі мураванка, што хоча клубам называцца, ужо ніколі не стане культурным цэнтрам. Лозунгі ж былога сацыялістычнага мінулага накшталт згаданага выклікаюць цяпер хіба толькі іранічную ўсмешку. А можа, і настальгію.

**Мікола ГАЙДУК.**

■ ФЕСТЫВАЛІ

# Адбор на «Басовішча-2001»

**МІНСК. Учора і сёння ў клубе «Тунэль» праходзіць адборачны тур маладых беларускіх каманд за права ўдзельнічаць у рок-фестывалі «Басовішча-2001». Яно сёлета пройдзе 20-21 ліпеня пад Беластокам.**

У кампаніі мінскіх груп «Імпэт», «Правакацыя», «Голая манашка», «Aquamorta», гродзенскіх «Твар» і «Pet Nihil-Tohotoc» і іншых спаборнічае і маладзечанскі «Rum and Ice».

У канцэрце таксама возьмуць удзел зоркі айчыннага року, у тым ліку «Zet», «Happy Face». Алесь Таболіч з групы «Зьніч» прадставіць сумесны з групай «Splenetic» хардкор-праект.

**Па матэрыялах БелаПАН.**

■ ІМЯНІНЫ

**22 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Марфы, Марыі, Аляксандра, Кірылы.
**Каталіцкія**: Паўліна.

**23 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Антаніны, Васіля, Івана, Цімафея.
**Каталіцкія**: Ванды, Зянона, Юзафа.

**24 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Варнавы, Варфаламея, Яфрэма.
**Каталіцкія**: Дануты, Яна.

**25 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Ганны, Аўксенція, Андрэя, Ануфрыя, Арсеня, Івана, Іоны, Пятра, Сцяпана, Феафіла.
**Каталіцкія**: Дароты, Люцыі, Вільгельма.

**26 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Акуліны, Антаніны, Ганны, Андроніка, Івана, Савы.
**Каталіцкія**: Паўла, Яна.

**27 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Георгія, Елісея, Мяфодзія, Мсціслава.
**Каталіцкія**: Марыі, Кірылы, Уладзіслава.

**28 чэрвеня**
**Праваслаўныя**: Амоса, Аўгусціна, Віта, Ераніма, Мадэста, Рыгора, Фёдара, Яфрэма.
**Каталіцкія**: Ірынея, Лявона.

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, чэрвень**

22 – 24 **"Дар – уладар звяроў"**, ЗША-Канада, прыгодніцкая камедыя 17-30
**"Крутыя віражы"**, ЗША 20-00, 22-10
23 – 24 **"Дзённік яго жонкі"**, Расія, драма 15-00
25 чэрвеня – 1 ліпеня **"Сам-насам з забойцай"**, ЗША, трылер 17-10 (25 – 29 чэрвеня)
25 чэрвеня – 1 ліпеня **"Міс кангеніяльнасць"**, ЗША, камедыйны баявік 19-20, 22-00

**Для дзяцей**

22 – **"Двое ў сваім родзе"** 10-00, 12-00
23 – **"Цягнік у канікулы"** 13-00
24 – **"Баль казак"** 13-00
25 – **"Мяняемся варотамі"** 10-00, 12-00
26 – **"Хованкі"** 10-00, 12-00
27 – **"Жар-птушка"** 10-00, 12-00
28 – **"Мадлен"** 13-00

■ ДНІ

24 чэрвеня – **Дзень моладзі.**
26 чэрвеня – **Дзень работнікаў пракуратуры.**

■ ТЭАТР

# «Білет у рай»: удалы эксперымент

**МАЛАДЗЕЧНА. Мінскі абласны драматычны тэатр прадставіў гледачу новую работу – спектакль "Білет у рай" па п'есе Ю. Эдліса.**

Ён незвычайны як для тэатра, так і для гледачоў. На сцэне (а спектакль доўжыцца недзе паўтары гадзіны) знаходзіцца толькі адзін акцёр – **Яўген Іўковіч**. Не памылюся, любімчык маладзечанцаў.

Творчае амплуа Яўгена вельмі разнастайнае. Дастаткова прыгадаць яго Жыда з "Камедыі", Джэры з "Двое на арэлях", Вільяма з "Два плюс два", Сяргея з "Аўчароў", Хведара з "Вавілона", Дульчына з "Апошняй ахвяры". Шмат выдатных роляў у дзіцячых спектаклях.

На гэты раз Яўген Іўковіч спрабуе сябе ў надзвычай складаным жанры – монаспектаклі. Спроба аказалася ўдалай, бо спектакль глядзіцца на адным дыханні. Немалая заслуга рэжысёра спектакля і, па ўсім відаць, аднадумца артыста – **Валерыя Мурычына**. П'есу Ю. Эдліса, ён перапрацаваў, напоўніў уласным дыханнем. Ён жа займаўся музычнае афармленнем.

На спектаклі быў аншлаг. Удзячныя гледачы доўга не адпускалі артыста са сцэны.

– Ніколі столькі не атрымліваў кветак, – прызнаваўся ў грымёрцы шчаслівы і стомлены Яўген Іўковіч. – Добра ўсё ж іграць у монаспектаклях: усе кветкі – мне.

Маладзечанцы і госці горада маюць магчымасць 28 чэрвеня а 19-й гадзіне зноў сустрэцца з артыстам. У касе тэатра гавораць, што білеты на "Білет у рай" яшчэ ёсць.

**Віктар МІКАЛАЕЎ.**

Год таму, 7 ліпеня 2000 г. знік наш калега, вядомы тэлеаператар

**Дзмітрый Завадскі**

**Ён здымаў у Чачні, але быў захоплены ў Беларусі. За што? Дзе зараз Дзмітрый Завадскі? Хто менавіта так выкарыстаў ужо год жыцця Дзімы і яго сям'і?**

***Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды пра лёс калегі!***

7 ліпеня 2000 года знік наш калега Дзмітрый Завадскі. Хутка год, як ягоная сям'я пазбаўленая бацькі і мужа. Беларуская асацыяцыя журналістаў заклікае ўсіх неабыякавых людзей дапамагчы сям'і Дзмітрыя Завадскага і даслаць ахвяраванні на разліковы рахунак Святланы Міхайлаўны Завадскай. Калі ласка, абавязкава пазначайце прызначэнне плацяжу: **АХВЯРАВАННЕ СЯМ'І, СЫНУ ДЗМІТРЫЯ ЗАВАДСКАГА.**

**Рэквізіты банка-атрымальніка:**

Рахунак для ахвяраванняў у валюце: PRIORBANK
Minsk V.Horuzhey str.31-A
SWIFT Code: PJCB BY 2X
3134125305029
Атрымальнік: **Sviatlana Zavadskaya**

Рахунак для ахвяраванняў у беларускіх рублях:
Р/р 3134125300011,
**"Пріорбанк" ОАО, код 749**
Атрымальнік: **Святлана Міхайлаўна Завадская.**

■ ПАЭТЫЧНЫЯ СУСТРЭЧЫ

# Бядой запаленае слова прагучала ў Жодзішках

**СМАРГОНЬ. Гасцямі аздараўленчага цэнтра "Лясная паляна" былі што ні ёсць сапраўдныя "лімаўцы" Алесь Пісьмянкоў, Навум Гальпяровіч, Віктар Шніп, Павел Саковіч, гісторык і археолаг Пятро Русаў. Гэта Дзяржкамітэт па праблемах наступстваў чарнобыльскай катастрофы сумесна з Саюзам пісьменнікаў і супрацоўнікамі газеты "Літаратура і мастацтва" арганізавалі акцыю "Бядой запаленае слова".**

"Лімаўцы" прыехалі туды, дзе папраўляюць сваё здароўе дзеці з Гомельшчыны. У мястэчку Жодзішкі яны пабывалі ўпершыню.

– А наогул, што вы ведаеце пра Смаргоншчыну? – пацікавілася я ў галоўнага рэдактара "ЛіМа" Алеся Пісьмянкова.

– Смаргоншчына вядомая з даўніх часоў, – пачула ў адказ, – перш за ўсё, Смаргонскай акадэміяй. А яшчэ ведаю, што наш калега **Уладзімір Някляеў** нарадзіўся тут. У Солах жыве наш сябра **Мар'ян Дукса**.

Пазней даведалася, што не па чутках ведае Смаргоншчыну і Пятро Русаў: ён разам з **Міхасём Чарняўскім** браў непасрэдны ўдзел у крэўскіх раскопках. У Віктара Шніпа жыве ў Смаргоні і працуе ў газеце "Светлы шлях" добрая знаёмая **Ала Страшынская**. Прыязджаў летась на 160-годдзе з дня нараджэння Ф. Багушэвіча Навум Гальпяровіч.

На працягу амаль дзвюх гадзін госці выступалі перад дзецьмі: чыталі свае вершы, расказвалі пра сябе.

Пятро Русаў спяваў песні. Ён заўважыў, што вельмі любіць музыку і бярэ гітару ў рукі, калі яму не вельмі добра на душы. Аднак трэба спадзявацца, што ў час выступлення Пятро быў у добрым настроі.

Віктар Шніп прызнаўся, што ён з'яўляецца аўтарам слоў вядомай песні "Усе мы родам з дзяцінства", якая часта гучыць па тэлебачанні. Больш дарослае пакаленне ведае яго, напэўна, як аўтара "Сабачых гісторый".

Алесь Пісьмянкоў нямала павесяліў публіку, калі разам з дзецьмі развучваў двухрадкоўе "Без марожанага – гіну, А з марожаным – ангіна". Ён зрабіў акцэнт на тое, што "ўсе мы ласуны. Навум Гальпяровіч хаця і не любіць салодкія рэчы, аднак вельмі любіць жанчын, значыць, яго таксама можна лічыць ласуном".

Выступленне гасцей дзецям спадабалася. Кнігі з аўтографамі паэтаў і пісьменнікаў атрымалі тыя, хто даваў правільныя адказы на пытанні гасцей. Пяцьдзесят кніг "лімаўцы" падарылі бібліятэцы "Лясной паляны". Аўтару таксама перапала кніга **Міколы Мятліцкага** "Хойніцкі сшытак" з подпісам "Ад Міколы і яго сяброў".

Разам з "лімаўцамі" пабываў на Смаргоншчыне і кіраўнік прэс-службы камчарнобыля **Васіль Протчанка**.

– Як даўно "лімаўцы" пачалі наведваць дзяцей, што пацярпелі ад Чарнобыля?

– Гэта наша другая сустрэча. Першая нядаўна адбылася ў Ждановічах. А наогул у Беларусі каля дзесяці такіх цэнтраў. Ва ўсіх мяркуем пабываць.

– Склад удзельнікаў такіх сустрэч пастаянны?

– Брыгады мяняюцца. У першай бралі ўдзел Мікола Мятліцкі, Уладзімір Буднік. На гэты раз усім паехаць не атрымалася. Напрыклад, **Уладзімір Буднік** рыхтаваўся да творчага вечара.

Пасля выступленняў госці разам з дырэктарам "Лясной паляны" **Анатолем Хомбакам** прайшліся па тэрыторыі. Выснова была агульная:

– Вось такія павінны быць усе летнікі.

Даспадобы мінчанам прыйшлося літаральна ўсё, таму яны жартавалі, што гатовыя прыехаць сюды яшчэ раз, каб "палячыць зубы".

З сабою ў Мінск госці павезлі добры настрой і бярозавыя венікі. Бяроза – добры прафілактычны сродак ад шмат якіх захворванняў.

**Галіна ПАДМОСТКА.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА

# Чытаем «РГ»

Вы любіце сустракацца па пятніцах з нашай газетай? Зрабіце гэтыя сустрэчы рэгулярнымі – падпішыцеся на "Рэгіянальную" ў любым паштовым аддзяленні. Мы ж абяцаем вам і ўдалейшым заставацца вернымі праўдзе. Незалежны погляд на жыццё нашага краю, цікавыя публікацыі па гісторыі, эканоміцы, спорце, займальныя забаўкі і крыжаванкі, каляровая праграма тэлебачання – усё гэта вы знойдзеце, калі разгорнеце "Рэгіянальную газету".

Вас чакаюць знаёмыя і новыя рубрыкі і аўтары.

Да сустрэчы ў наступную пятніцу.

**Рэдакцыя «РГ».**

**Індывідуальная падпіска**
*індэкс 63212*
**1 мес.** – 662 руб.
**3 мес.** – 1986 руб.

**Ведамасная падпіска (з улікам ПДВ)**
*індэкс 63369*
**1 мес.** – 2380 руб.
**3 мес.** – 7140 руб.

■ НАШ АНАЛІЗ

# Аляксандр Ярашук: «Твар вёскі – твар дзяржавы...»

**Беларуская сельская гаспадарка па-ранейшым застаецца адной з самых балючых кропак дзяржавы. І без рашэння праблем, якія тут наспелі, цяжка разлічваць на пад'ём эканомікі ўсёй краіны. На канферэнцыі, што адбылася днямі ў грамадскім прэс-цэнтры, сваю ацэнку сітуацыі даў старшыня Беларускага прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу Аляксандр ЯРАШУК. Яму слова.**


Фота IREX\ProMedia.

**Старшыня Беларускага прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу Аляксандр ЯРАШУК.**

– Каб граматна і паспяхова вырашаць якую-небудзь праблему, трэба, у першую чаргу, рэальна і правільна ацаніць сітуацыю, што ўзнікла. Сумленна паглядзедзець праўдзе ў вочы. А яна, на жаль, несуцяшальная: сельская гаспадарка Беларусі, якая з'яўляецца, па сутнасці, фундаментам усёй эканомікі краіны, працягвае дэградзіраваць. Прычым, тычыцца гэта і фінансава-эканамічнага стану пераважнай большасці нашых гаспадарак, і сацыяльнага, бо гэтыя рэчы звязаныя напрамую.

Узмацненне негатыўных тэндэнцый пацвярджае і статыстыка. Па выніках 2000 года колькасць стратных гаспадарак наблізілася па рэспубліцы да 1200. Гэта, па сутнасці, палова. Амаль 70% такіх гаспадарак у Віцебскай і Магілёўскай абласцях.

У калгасаў і саўгасаў, якія пакуль што трымаюцца на плыву, стан няўстойлівы. Узровень рэнтабельнасці па ўсёй дзейнасці сельгаспрадпрыемстваў склаў летась усяго 3%. У 1999-м, заўважу, быў 11,9%. Несуцяшальна выглядаюць і вынікі работы АПК па асобна ўзятых галінах.

Аднак не лічбы больш за ўсё непакояць у гэтай сітуацыі, а сама сутнасць таго, што адбываецца. Самае сумнае і, падкрэслю, небяспечнае ў сітуацыі, што складваецца, – гэта дэградацыя усёй Беларускай Вёскі з усім яе шматвяковым укладам і бытам. Яна ў нас старэе літаральна на вачах, прычым у апошнія гады гэты працэс развіваецца проста імкліва. Знікаюць цэлыя вёскі, назіраецца вялізная міграцыя насельніцтва ў гарады. 90% тых, хто пакідае вёску, складае моладзь – хлопцы і дзяўчаты ва ўзросце ад 16 да 29 год.

Яшчэ адна цяжкая праблема, якая таксама абвастрылася ў апошні час, – п'янства. Беларуская вёска амаль спілася. І выратоўваць ужо трэба не калгасы, а калгаснікаў. Прычым жаночы алкагалізм ужо практычна стаў нараўне з мужчынскім.

Чаму ж так рэзка захмялела беларуская вёска? Чаму бутэлька нізкапробнага "чарніла", якімі заваленыя сельскія магазіны, замяняе тысячам сяльчан работу, сям'ю, будучае? Чаму такія стомленасць і бязвыхаднасць у вачах людзей? Вёска, на людскіх і матэрыяльных рэсурсах якой будаваўся так і не дабудаваны камунізм, аказалася крайняй і цяпер, калі цэны на прамысловую прадукцыю скакалі кожны дзень, а на сельскагаспадарчую з усёй моцы трымаліся "на прывязі".

Сельская гаспадарка застаецца, нягледзячы на ўсе словы, "дойнай каровай" для дзяржавы: яна абавязаная не толькі карміць краіну, але і трымаць на сваіх плячах сацыяльную інфраструктуру сяла разам з самой мясцовай уладай у дадатак.

Бясконца гэта працягвацца, зразумела, не можа. Беларуская вёска стамілася і маральна, і матэрыяльна. Прычым маральны бок праблемы я падкрэсліў бы асабліва. Менавіта гэтая тэма пастаянна ўзнікае ў размовах з людзьмі, калі бываеш у гаспадарках. Часта сельскага пенсіянера, які аддаў калгасу паўжыцця, і выслухаць ніхто не хоча, не гаворачы ўжо пра тое, каб дапамагчы. Не намнога лепш адчуваюць сябе і тыя, хто яшчэ працуе ў полі ці на ферме, калі даводзіцца вырашаць бытавыя праблемы.

У гэтай сітуацыі, я ўпэўнены, неабходна ўзмацняць ролю сельскіх прафсаюзных камітэтаў. Яны павінны не толькі клапаціцца пра простых людзей, але і абараняць іх. Прывычка "эканоміць" на патрэбах людзей ва ўмовах безграшоўя дае пра сябе знаць яшчэ больш. Вялікая роля прафкомаў і ў падтрымцы здаровай маральнай абстаноўкі ў гаспадарках. Менавіта на такую дзелавую штодзённую работу мы цяпер і настройваем сваіх прафсаюзных актывістаў на месцах. У прафсаюзе работнікаў АПК больш за мільён чалавек.

Актывізаваць сваю работу, рэальна стаяць на абароне правоў і патрэб сельскіх працаўнікоў мы павінны асабліва ў цяперашняй сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў АПК. Бо менавіта дзякуючы людзям, якія жывуць і працуюць на зямлі – кіраўнікам, спецыялістам, механізатарам, паляводам, – у беларускага сяла дзе-нідзе пакуль застаецца запас трываласці. Гэта пацвярджае прыклад некаторых гаспадарак, якія пры самых складаных сітуацыях знаходзяць магчымасці для стабільнай работы і нават для росту вытворчасці.

Аднак такіх гаспадарак у беларускім АПК будзе рабіцца ўсё менш, калі ў бліжэйшы час не будуць праведзеныя сур'ёзныя змяненні ва ўсёй сістэме функцыянавання сельскай гаспадаркі. І гэтыя рашэнні павінны быць прынятыя на дзяржаўным узроўні.

Прычым рашэнні не палавінчатыя, а кардынальныя. Здольныя паказаць працаўнікам сяла "святло ў канцы тунэля", прыцягнуць у аграпрамысловы комплекс Беларусі інвестыцыі, аздаравіць маральнае становішча на сяле, прыпыніць адток кадраў. Час пачынаць лячыць хваробу, а не заганяць яе глыбей у надзеі, што нехта прыйдзе і вырашыць усе нашы праблемы за нас.

Рэсурс часу, адпушчаны на прыняцце рашэнняў і дзеянні, у нашай краіны, памойму, на зыходзе. І гэта меркаванне не толькі маё, але і тых кіраўнікоў, спецыялістаў, з якімі даводзіцца пастаянна сустракацца.

Вельмі многае ў аздараўленні ўсяго сельскага жыцця і работы залежыць ад органаў улады – і рэспубліканскіх, і мясцовых. Любыя рэформы ў сельскай гаспадарцы непазбежна адлюстроўваюцца на жыцці кожнага жыхара краіны. Адсюль і вялізная адказнасць за вынік. Але яна павінна не палохаць, а настройваць на пошук аптымальных рашэнняў усіх праблем, што ўзнікаюць.

Думаю, што пры такім падыходзе сітуацыю ў развіцці беларускага сяла можна змяніць да лепшага.

**Сяргей АНДРЭЕЎ.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 14 чэрвеня | 21 чэрвеня |
|---|---|---|
| Долар | 1375,00 руб. | 1372,00 руб. |
| Нямецкая марка | 600,49 руб. | 598,97 руб. |
| Літ | 343,84 руб. | 343,10 руб. |
| Расійскі рубель | 47,21 руб. | 47,10 руб. |
| Злоты | 348,72 руб. | 343,04 руб. |
| ЕЎРА | 1174,46 руб. | 1171,48 руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 1390 – 1410 руб. | 1400 – 1410 руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 13.06 | 20.06 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 2280 | 2280 |
| Кілбаса с/вялен., 1 кг | 7690 | 7670 |
| Сасіскі, 1 кг | 2550 | 2550 |
| Селядзец, 1 кг | 1650 | 1650 |
| Рыс, 1 кг | 530 | 530 |
| Грэчка, 1 кг | 440 | 440 |
| Цукар, 1 кг | 585 | 585 |
| Алей, 1 л | 850 | 860 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 680 | 680 |
| Маянэз, 200 г | 260 | 250 |
| Кава "Пеле", 100 г | 1500 | 1500 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 450 | 450 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 380 | 370 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 700 | 600 |
| Капуста, 1 кг | 700 | 650 |
| Агуркі, 1 кг | 700 | 600 |
| Лімоны, 1 кг | 1450 | 1400 |
| Апельсіны, 1 кг | 1200 | 1500 |
| Чарэшня, 1 кг | 2000 | 2000 |
| Клубніцы, 1 кг | 1500 | 1400 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 1000 | 1000 |
| Масла, 1 кг | 2200 | 2200 |
| Тварог, 1 кг | 700 | 700 |
| Малако, 1,5 л | 350 | 350 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 900 | 900 |
| Бульба, вялікае вядро | 650 | 700 |
| Бульба маладая, 1 кг | | 800 |
| Морква, 1 кг | 1000 | 1450 |
| Морква маладая, 1 пучок | | 500 |
| Яблыкі, 1 кг | 750 | 950 |
| Цыбуля зялёная, 1 пучок | 150 | 200 |
| Радыс, 1 пучок | 250 | 200 |
| Кроп, 1 пучок | 50 | 50 |

■ ПАСЛЯ ПУБЛІКАЦЫІ

# Адказ Вілейскага райвыканкома

**Раённы выканаўчы камітэт разгледзеў публікацыю М. Мелеца "Рынак у бетонным мяшку", апублікаваную ў газеце ў №№15, 16 ад 13 і 20 красавіка 2001 года і інфармуе, што артыкул разгледжаны ў калектыве камунальнага унітарнага прадпрыемства "Садружнасць" і індывідуальнымі прадпрымальнікамі.**

Меркаванне, выказанае, аўтарам артыкула, не адлюстроўвае думку большасці індывідуальных прадпрымальнікаў, якія гандлююць на мінірынку.

Аўтар артыкула падпісваецца як старшыня Вілейскай прафсаюзнай арганіацыі, у той час, як гэтая грамадская арганізацыя ў раёне не зарэгістраваная.

Вырашаючы пытанне размяшчэння міні-рынку на тэрыторыі прадпрыемства "Садружнасць", выканаўчы камітэт зыходзіў, перш за ўсё, з таго, каб стварыць добрыя ўмовы як для індывідуальных прадпрымальнікаў, так і для пакупнікоў, што наведваюць дадзены гандлёвы пункт, улічвалася месца размяшчэння рынку, транспартная развязка.

Распараджэннем №50-Р ад 18.02.2000 года, зыходзячы з патрабаванняў санітарнай службы па арганізацыі рынкаў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, правілаў па іх эксплуатацыі, было прынятае рашэнне ўтварыць пры КУП "Садружнасць" міні-рынак і размясціць яго па вуліцы Савецкай, 6.

Адным з пунктаў распараджэння грашовыя сродкі, атрымліваемыя ад эксплуатацыі рынкаў, у першачарговым парадку пасля ўплаты падаткаў накіроўваюцца строга па мэтавым прызначэнні на мадэрнізацыю і развіццё рынкаў.

10.03.2000 года акт выбару зямельнага ўчастка пад мінірынак быў узгоднены з усімі службамі, якія маюць адносіны.

Кіруючыся дадзеным рашэннем, кіраўніцтва прадпрыемства «Садружнасць» намеціла на 2000 год план работ па стварэнні неабходных умоў для арганізацыі гандлю на гэтым прадпрыемстве.

За 2000 год прадпрыемствам «Садружнасць» выдаткавана на міні-рынак 22209025 рублёў.

Збор па рынку за 2000 год ад прадпрымальнікаў склаў 20080000 рублёў.

Аналагічныя мерапрыемствы па развіцці міні-рынку з мэтай пашырэння паслуг для тых, хто гандлюе, намечана здзейсніць у 2001 годзе.

У прыватнасці, прадугледжваецца пашырыць тэрыторыю міні-рынку, пераабсталяваць памяшканне, што стаіць, пад камеру захоўвання тавараў, працягнуць добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі, устанавіць стацыянарныя кіёскі, а таксама выканаць шэраг іншых работ.

У цяперашні час на мінірынку ажыццяўляецца гандаль са 186 палатак, у тым ліку, 42 харчовых.

Размяшчэнне палатак як на тэрыторыі міні-рынку, так і прылеглай робіцца згодна з зацверджанай дыслакацыяй.

Асартымент харчовых тавараў узгоднены з цэнтрам гігіены і эпідэміялогіі з мэтай выключэння нанясення ўрону здароўю людзей. Рэалізацыя тавараў таксама кантралюецца гэтым падраздзяленнем.

Функцыянаванне міні-рынку ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Правіламі гандлю на рынках Рэспублікі Беларусь, зацверджанымі загадам Міністра гандлю Рэспублікі Беларусь №100 ад 08.07.1998 года.

Узровень рынachных збораў з гандлёвых месцаў на мінірынку КУП «Садружнасць» разлічваецца згодна з планам калькуляцыі, што ўключае ў сябе матэрыяльныя затраты на ўтрыманне і добраўпарадкаванне рынку, аплату працы персаналу, які абслугоўвае, падаткаабкладання даходаў па рынку.

Што тычыцца пытання падаткаабкладання прадпрымальнікаў, трэба мець на ўвазе, што яно ажыццяўляецца ў адпаведнасці з дзейнічаючым заканадаўствам.

5%-ы падатак з продажаў на тавары быў уведзены згодна з дзейнічаючай пастановай Савета міністраў Рэспублікі Беларусь ад 22.01.2001 года №77 "Пералік тавараў, на якія абласныя і Мінскі гарадскі Саветы дэпутатаў, Саветы дэпутатаў базавага тэрытарыяльнага ўзроўню не ўводзяць у 2001 годзе падатак на продаж у рознічнай гандлёвай сетцы.

27.04.2001 года рашэннем выканкома №85 зменены ў бок скарачэння спагнання 5%-га падатку пералік тавараў, якія абкладаюцца падаткам на продаж у рознічнай гандлёвай сетцы.

Устанаўленне руху аўтатранспарту на тэрыторыю рынку, згодна з распараджэннем выканкома ад 05.02.2001 года №36-Р прадыктавана, перш за ўсё, у мэтах захавання бяспекі наведвальнікаў міні-рынку і эксплуатацыі прылеглай паркавай зоны.

Для асоб, якія жадаюць ажыццяўляць гандаль цывілізаванымі метадамі, ніколі не чыніліся з боку мясцовых органаў улады перашкоды, узаконеныя месцы выязнога гандлю, шэраг прадпрымальнікаў устанаўлівае стацыянарныя кіёскі, арандуюць плошчы іншых арганізацый пад магазіны.

Адзінай умовай для ўсіх застаецца выкананне патрабаванняў па бяспецы рэалізацыі тавараў для пакупнікоў, захаванне правілаў гандлю, устаноўленыя заканадаўча.

Не адпавядае сапраўднасці адзначаны ў артыкуле факт знаходжання на прылеглай да міні-рынку тэрыторыі аварыйнага будынка былога дзіцячага садка-ясляў, таму што ў гэтым памяшканні пасля рамонту размешчаны інтэрнат аддзела адукацыі, у якім і пражываюць яго работнікі.

**Мікалай КАРОТКІ,**
**намеснік старшыні**
**Вілейскага райвыканкома.**

■ АРМІЯ

# На службу ў армію

**СМАРГОНЬ. Цяпер праходзіць кампанія па прызыве грамадзян на тэрміновую ваенную службу. На пасяджэнні Смаргонскага райвыканкома падвялі вынікі прызыву ў 2000 годзе.**

Летась ва Узброеныя Сілы ў Смаргонскім раёне прызвалі 275 чалавек. Сярод іх 19 мелі вышэйшую адукацыю і 203 – сярэднюю. Узровень прызыўнікоў з вышэйшай адукацыяй пастаянна павялічваецца, хоць і не значна. З прызыўнікоў 82 чалавекі мелі правы вадзіцеля транспартных сродкаў.

Прыгоднасць прызыўнікоў па стане здароўя застаецца прыкладна на адным узроўні. У 1999 годзе – 73,8%, а ў 2000 – 73,5%.

Былі і "ухілісты". Летась 2 чалавекі ухіляліся ад прызыву на тэрміновую ваенную службу, а яшчэ 2 чалавекі знаходзяцца ў вышуку яшчэ з мінулых год, таму што не з'яўляюцца па месцы прапіскі ў Смаргонскім раёне.

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# Гульня нявыкарыстаных момантаў, або «Лакаматыў» разлічваў на нічыю

**14.05 Маладзечна-2000 – Лакаматыў-96 (Віцебск) 0:1**

**Арбітр:** Вялічка (Мінск), 1500 гледачоў.

**Гол:** Кузьмініч (40).

**Папярэджанне** ў складзе "Маладзечна-2000": Азаронак.

**Лепшыя**, па версіі "РГ": Мігас, Дараховіч.

Турчыновіч Макрыцкі (Смірноў, 74)
Міхалёў (кап.)
Тартоўскі Мігас
Карпіленка (Дараховіч, 36)
Кабельскі (Вільтоўскі, 51)
Бычкоўскі Азаронак
Муравейнікаў
Сцепановіч

Два аднолькавыя таймы з адной толькі розніцай: першы – ініцыятыва ў гасцей, небяспечныя моманты ў гаспадароў, другі – усё наадварот.

У дэбюце больш актыўна павялі сябе віцябляне. Першыя 10 хвілін гульні ўмясцілі ў сябе некалькі вылазак гасцей, якія заканчваліся нескладанымі для Сцепановіча ўдарамі па варотах.

Вастрыню ў гасцей неслі амаль усе стандартныя становішчы. Запомніліся аўты ў выкананні капітана гасцей **Дзятлава**. Мяч ляцеў на 30–40 метраў, іншы так нагой не ўдарыць. Частка падобных укідванняў завяршылася ўдарамі па варотах гульцамі пярэдняй лініі.

Гром грымнуў за 5 хвілін да канца тайма. "Васьмёрка" "Лакаматыва" **Сяргей Кузьмініч** атрымаў мяч у раёне цэнтральнага круга. Убачыў, што **Сцепановіч** выйшаў з варот на добры дзесятак метраў і на ўсялякі выпадак запусціў мяч. Стадыён заціх і назіраў, як ён па-здрадніцку пералятаў Сцепановіча і транзітам ад перакладзіны трапіў у сетку.

У другім тайме госці маглі забіць яшчэ з пяць галоў. Толькі Кузьмініч меў тры моманты, якія былі больш галявыя, чым на злашчаснай 40 хвіліне. А пра што разважаў 18-гадовы нападаючы гасцей **Радыёнаў**, калі біў у пустыя вароты з 16 метраў, невядома. Але мяч размінуўся з сеткай.

Тактычныя замены і перастаноўкі **Людаса Румбуціса** не прыносілі жаданага выніку. Гаспадары валодалі ініцыятывай, ішлі наперад, але ў атацы нічога не атрымлівалася. Шмат памыляўся Сцепановіч, не ішла гульня ў **Міхалёва**, "стаў" **Турчыновіч**.

У складзе "Маладзечна-2000" можна адзначыць толькі **Дзмітрыя Мігаса**, які зрабіў некалькі абвастрэнняў у атацы, і дэбют у вышэйшай лізе **Дзяніса Смірнова**. За чвэрць гадзіны знаходжання на полі ён не памыляўся ў перадачах і зрабіў сакавіты ўдар па варотах з 20 метраў. Мяч прасвісцеў у сантыметрах ля правай "дзявяткі". Гэта, бадай, і было апошнім шанцам зраўняць лік.



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
**Дзмітрый Мігас (справа) падчас дамашняга матча з «Гомелем».**

Галоўны трэнер гасцей **Віктар Навумаў** сказаў, што перад матчам ён разлічваў на нічыю, бо "Маладзечна-2000" у апошніх матчах было "на хаду". Людас Румбуціс адзначыў: так блага каманда не гуляла нават супраць "Славіі". І лік мог быць значна большы на карысць гасцей.

**Юрый КАРПІЦКІ, Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

## Табло

■ ДУБЛЬ

**Маладзечна-2000 – Лакаматыў-96 (Віцебск) 1:0**

**Гол**: Антановіч (7)

**Склад**: Рубацкі, Дрозд, Відрук, Дараховіч (кап.) (57, Матусевіч), Лужынскі, Лявончык, Антановіч, Багайчук (46, Альховік), Смірноў, Млечка, Грыхуцік (62, Чарнель)

**Запасныя**: Асадоўскі, Абановіч

Адзіная памылка гасцей у абароне вырашыла зыход матча. Момант скарыстаў **Аляксей Антановіч**. Як і ў Рэчыцы, дублёраў выручыў **Аляксей Рубацкі**, які ўжо залячыў траўму.

■ 2 ЛІГА

**17. 06 СКАФ – Забудова 1:0**

**Гол**: 55.

**Склад**: Анд. Канапелька, Яцына (Міркановіч, 46), Дз. Мятліцкі (Садчанка, 62), А. Канапелька, М. Мятліцкі, Балыкін, Чумак (Татун, 72), Казлоўскі, Урублеўскі, Дзіковіч, Мацюк.

**Выдаленні**: Камзолаў (СКАФ), Урублеўскі – на 28 хвіліне, за ўзаемную грубасць.

Гаспадары выйшлі на гульню без двух дасведчаных ветэранаў – **Яромкі** і **Кубарава**. Хаця чысцінцам ад таго лепей не стала.

Каманды мелі досыць момантаў, каб забіць гол. Прыкладам, у гасцей тры 100-працэнтныя моманты засталіся на сумленні нападаючых. Мінчане ў завяршальнай стадыі таксама не паказвалі асаблівага майстэрства, аднак гол усё ж забілі. Праўда, толькі пасля выхаду сам-насам з варатаром.

**16. 06 Змена – Смаргонь 0:7**

**Галы**: Селіванаў (8, пен.), Відук (15), Шаблінскі (29, 43, 45), Шпакоўскі (30), Дзігілевіч (38).

**Склад**: Шэлест (Кліменка, 62), Іваноў, Шагойка, Шпілеўскі, Селіванаў, Максіменка, Відук, Чарнуха, Дзігілевіч, Шаблінскі (Каўрыга, 65), Шпакоўскі (Карабінскі, 77).

**Выдаленне**: Шагойка (73) за знявагу суддзі.

У сваім чарговым прайграным матчы зменаўцы ўсе мячы прапусцілі ў першым тайме. Асноўнымі дзеючымі асобамі ў гэты час былі **Селіванаў, Відук, Шпакоўскі, Дзігілевіч** і, натуральна, аўтар «хет-трыка» **Шаблінскі**.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

**20. 06 Забудова – Баранавічы 1:4**

**Гол**: Міркановіч.

**Склад**: Мядзведзеў, Садчанка, Дз. Мятліцкі, А. Канапелька, М. Мятліцкі, Балыкін, Татун, Казлоўскі, Міркановіч, Дзіковіч, Мацюк.

У канцы матча цяжкую траўму атрымаў **Мацюк**.

**Выдаленне**: Канапелька, 80.

**20. 06 Смаргонь – СКАФ 1:2**

**Галы**: Дзігілевіч, 22; 47, 73.

**Склад**: Шэлест (Кліменка, 62), Іваноў, Шагойка, Шпілеўскі, Селіванаў, Максіменка, Відук, Чарнуха, Дзігілевіч, Шаблінскі (Каўрыга, 65), Шпакоўскі (Карабінскі, 77).

На 68 хвіліне за фол апошняй надзеі выдалены варатар гасцей. На матчы прысутнічалі інспектар БФФ **Ігар Бялоў** і галоўны трэнер «Маладзечна-2000» **Людас Румбуціс** (ён хацеў прагледзець аднаго з гульцоў мінчан, але таго не ўключылі ў склад).

**Мікіта ЛІСТАПАД.**

■ У ФЕДЭРАЦЫІ ФУТБОЛА

**МІНСК. У аўторак Беларуская Федэрацыя футбола разглядала паступленне ад каманд заявачных узносаў. «Забудова», якая мела доўг, разлічыцца паспела.**

А вось «Вейна-Днепр» федэрацыя зняла са спаборніцтваў. Узнос каманда не заплаціла, не з'явілася на другую ў сезоне гульню. Паколькі каманда з Магілёўшчыны не згуляла 50% матчаў, вынікі яе выступленняануляваныя. «Забудова», такім чынам, развіталася з трыма ачкамі (выйгралі 6:2).

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ДЗІЦЯЧЫ ФУТБОЛ

МЯДЗЕЛ. У раённых спаборніцтвах «Скураны мяч-2001» перамагла каманда вучняў школы к. п. Нарач.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ ТУРЫЗМ

**МАЛАДЗЕЧНА. Шэсць каманд спрабавалі свае сілы ў начным арыентаванні, крос-паходзе, мініфутболе, гумарыстычнай паласе перашкодаў на традыцыйным гарадскім злёце, што прайшоў на беразе Віліі ў мінулыя выхадныя .**

Упершыню на злёце выступілі каманды піўзавода і цэнтра пазашкольнай работы. Граматамі былі ўзнагароджаныя за I месца каманда "Хамелеон", за II – каманда "Пілігрым" і за III – каманда "Спадарожнік". Адбыўся конкурс-канцэрт песні і гумару.

**Яўген СТЭЛЬМАХ.**



Фота Яўгена СТЭЛЬМАХА.
**Момант гумарыстычнай эстафеты: спрактыкаваныя турысты мусяць выцягваць адно аднаго з паласы перашкод.**

## На гэтым тыдні гуляюць

**24.06 Верас (Нясвіж) – Забудова**
+2=0-4 4-6. Летась 1:2 на выездзе і 0:1 дома.

**24.06 Баранавічы – Смаргонь**
+1=0-1 5-5. Летась 2:1 дома і 3:4 на выездзе.

**24.06 Дубль: Маладзечна-2000 – Белшына**

**25.06 Маладзечна-2000 – Белшына (Бабруйск)**
+3=4-6 19-18. Апошні матч 30.10.99 Белшына – Маладзечна 3:0.

■ МІНІ-ФУТБОЛ

# Сяргей Кузняцоў: «Маглі стаць чэмпіёнамі»

**МАЛАДЗЕЧНА. Міні-футбалісты сёлета сталі бронзавымі прызёрамі чэмпіянату краіны. Хаця маглі прэтэндаваць і на «золата». На пытанні "РГ" адказвае гулец першай чацверкі "Металурга-JP" Сяргей Кузняцоў.**

**– Для знаёмства з чытачамі крыху пра сябе, калі ласка.**

– Пачынаў у сталічнай "Змене" ў **Аляксандра Сідаровіча**, потым у першынстве БССР гуляў за МВІЗРУ і "Прамень". Тады ў "Прамені" пачынаў трэнерскую кар'еру **Юрый Пунтус**, цяперашні настаўнік маладзёжнай зборнай. Выступаў за гэтую каманду ў другой лізе (цяпер – першая), а потым перайшоў у віцебскі "Лакаматыў" з першай (цяпер – вышэйшай). Праз два сезоны (56 матчаў, 2 галы – **аўт.**) каманда пакінула мацнейшы дывізіён, а я атрымаў запрашэнне ад **Сяргея Сафонава**. У яго футзальным (версія ФІФУСА) "Атланце" гуляў з 1995 па 1998 год, выступаў на чэмпіянаце свету (7 месца – **аўт.**). Быў легіянерам, выступаў за маскоўскі "Спартак". Там фінансавыя справы не склаліся, таму мінулым летам ізноў прыняў запрашэнне Сафонава.

**– Што скажаце пра маладзечанскую каманду?**

– Перспектыўная. Ужо ў першым чэмпіянаце "з чыстага ліста" стала трэцяй. Цяпер сітуацыя складвалася да таго, што маглі стаць чэмпіёнамі. Аднак самі вінаватыя, толькі з-за ўласных памылак саступілі "Сімургу". Ён у тым матчы не паказаў чагосьці асаблівага.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**



Фота Дзмітрыя ХАРЫТОНАВА.
**Галоўны трэнер «Металурга-JP» Сяргей Сафонаў просіць футбалістаў дадаць у гульні.**

■ БРЫДЖ

# Маладзечанскі брыдж запрашае разумных мільянераў

**МАЛАДЗЕЧНА. Горад лічыцца адным з цэнтраў брыджа ў Беларусі. 10 год існуе брыдж-клуб "Папараць". Узначальвае гарадскую федэрацыю Яўген Чаеўскі.**

Маладзечанскі клуб уваходзіць у Беларускую Асацыяцыю і налічвае 30 членаў ад 14 да 65 год. 1 кастрычніка пройдзе набор усіх жадаючых. Асабліва будуць радыя асобам жаночага полу. Кожны аўторак і чацвер а 19-й гадзіне тут праводзяцца камандныя, парныя і індывідуальныя турніры.

У 1993–94 гадах быў першы выезд беларусаў на турнір у Швейцарыю. У 1996–97 гадах у той жа Швейцарыі выйгралі $1000 і кожны гулец – залатыя гадзіннікі.

– Наш клуб уваходзіць у Еўрапейскі саюз брыджа (цэнтр – у Парыжы) і Міжнародны саюз брыджа (цэнтр – Амерыка), якія запрашаюць маладзечанскі брыдж-клуб на кожны турнір, – гаворыць **Яўген Чаеўскі**.

Самую высокую ўзнагароду маладзечанцы атрымалі на чэмпіянаце Беларусі – бронзу. Бронзавыя прызёры – Яўген Гардзей, Павел Басінюк, Сяргей Бычкоў, Яўген Чаеўскі. Ён прайшоў 6–7 чэрвеня ў пансіянаце "Вілія". Удзельнічалі ў чэмпіянаце 16 каманд з Мінска, Гродна, Брэста, Маладзечна і інш.

16–17 чэрвеня прайшоў турнір майстроў. З чатырнаццаці пар дзве – з Маладзечна (Дзмітрый Ган – Яўген Гардзей, Аляксандр Котаў – Аляксандр Мартынаў).

### Да ўвагі патэнцыяльных мільянераў

У жніўні пройдзе чэмпіянат свету сярод юніёраў у Польшчы. Беларусь будзе прадстаўляць 1 пара.

Чэмпіянат свету-2002 пройдзе ў Інданэзіі дзесьці ў кастрычніку. Папярэдзіць яго чэмпіянат Еўропы на Канарскіх астравах прыкладна ў канцы чэрвеня.

Але ж трапіць на такога ўзроўню чэмпіянаты вельмі складана з-за недахопу фінансавання. Суткі пражывання аднаго чалавека абыходзяцца каля $50. Чэмпіянаты доўжацца прыкладна 2 тыдні. Беларусы апошні раз на чэмпіянаты ў замежжа выязджалі 2 гады таму.

І тым не менш у Маладзечне брыдж набірае хуткія тэмпы развіцця. У свеце ён найбольш развіты ў ЗША. Лічыцца, што разумны мільянер павінен гуляць у брыдж. Гэта вельмі складаная лагічная гульня. Ёсць памылковае меркаванне, што той, хто гуляе ў шахматы, добра гуляе і ў брыдж. Гэта не так. А вось што можа дапамагчы ў навучанні брыджу і з'яўляецца ў нейкім сэнсе, 1-й ступенню, – звычайная гульня ў дурня. Апошнім часам брыдж прызналі алімпійскім відам спорту.

**Ірына РАБУШКА.**

